# Новы год пачаўся блага

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

ня хоча верыць, што мэтай Крэмлю падбой сьвету; затое ахвотна верыць у бязглузьдзіцу а ля «дух Жэнэвы». Калі днямі на сэсіі Вярхоўнага Савету Хрушчоў выразна падкрэсьліў: «Мы ніколі не адмаўляемся і не адмовімся ад сваіх ідэяў і ад змаганьня за перамогу камунізму...» — на Захадзе аж закракталі ад зьдзіўленьня ды прыкрага расчараваньня: «Ня можа быць! Хрушчоў — такая высокапастаўленая асоба і сказаў штосьці падобнае?!.» Адным словам, ня вераць Хрушчову. Толькі, нажаль, не заўсёды і ня там, дзе трэба...

Калі-ж справа йдзе аб вышэй сказанае, што Хрушчоў, Булганін і супалка робяць, што хочуць — гэта таксама зьяўляецца іхным вялікім плюсам. Маскоўскія верхаводы ня маюць патрэбы лічыцца з грамадзкай думкай сваіх народаў, ім ня сьняцца кашмарныя сны аб магчымасьці правалу на выбарах, яны ня мусяць здаваць справаздачаў з сваіх дзеяньняў — хіба толькі дзеля ліпы, каб сабраць яшчэ адну порцыю «бурных апладысмэнтаў». Усе гэтыя атрыбуты таталітарнай сыстэмы даюць камуністычным аўтакратам перавагу над кіраўнікамі дэмакратычнага сьвету.

Некалькі дзён таму ў Ангельшчыне падняўся вялікі гвалт, які дайшоў да разьмеру палітычнага скандалу. Ангельскі ўрад прадаў прыватным прадпрыемствам колькі сотняў старых танкаў, годных на злом. Прыватныя-ж фірмы гэтыя танкі крышку адрамантавалі, памалявалі, ды адправілі Эгіпту. І вось ангельская прэса й апазыцыя паднялі такі скандал, быццам-бы Ідэн прадаў усю Ангельшчыну з усімі прылегласьцямі. Пад дыктатурай штось падобнае не здараецца. З Крэмлю штогод ідуць мільярды народных грошай на камуністычную дывэрсыю, на фінансаваньне розных лякальных войнаў і бунтаў, аднак ніводзін дэпутат, ніводная газэта аб гэтым ня пікнулі.

Тактыка дзеяньня савецкіх сатрапаў дыямэтральна розьніцца ад тактыкі заходніх дыпляматаў, але затое дае без параўнаньня лепшыя вынікі. Хрушчоў не нацягвае рукавічак, а лезе пад пячонку голымі рукамі. Ніводзін крышку інтэлігентны чалавек не адважыўся-б так нахабна, цынічна й бяссорамна гаварыць такіх дзікіх абсурдаў, як гэта рабіў Хрушчоў у Індыі й Бірме. Ніводнаму заходняму дыплямату праз глытаўку не прайшлі-б гэткія ілжывыя словы, якімі Мікіта абкладаў заходні сьвет, тым больш, што тут-жа стаяў Нэру і індыйская інтэлігенцыя, якая добра ведала, што Мікіта нахабна хлусіць. А Хрушчову гэта нічуць не перашкаджала. Ён гаварыў не да Нэру і інтэлігенцыі — ён рабіў прапаганду сярод масаў. Ён займаўся абсурднай дэмагогіяй, але тым, што падабаецца масам. І масам спадабалася. Мільёны натоўп выў з захапленьня. Хрушчоў і Булганін — ваюючыя атэістычныя перасьледавальнікі ўсіх рэлігіяў нічуць не захісталіся, каб сабе на ілбох маляваць чырвонай хварбай пункты на знак, што сяньня маліліся Богу. Таксама іх абсалютна не сароміла, што яны выглядваюць камічна ў даўгіх да пят кашулях ёгаў або — калі ськідаюць чаравікі перад уваходам у сьвятыню. Хрушчоў і Булганін — верхаводы сусьветнага камунізму, паехалі ў Бірму адведаць часткі бірманскіх войскаў, якія змагаюцца з камуністычнымі партызанамі. Парадокс? Панашаму так, але для камуністычнай этыкі — гэта драбніца. Хрушчоў з Булганінам езьдзілі рабіць прапаганду. І зрабілі. Цяпер Нэру можа кусаць сабе локці, бо доўга і марудна яму прыдзецца адрабляць, што яму «дарагія госьці» нарабілі, але гасьцям — ані шум у вуху. Ім нічуць ня здрыганецца сумленьня й рука ў вадпаведным мамэньце зрабіць з «дарагім прыяцелем» Нэру тое самае, што зрабілі з Чанкайшэкам, Мікалайчыкам, Бэнэшам і іншымі. Булганін і Хрушчоў, а перадусім гэты апошні, ілжыва й бяссорамна сабачылі на ангельскі ўрад перад Індусамі й Бірманцамі. Вярнуўшыся ў Маскву, Хрушчоў далей паўтарае гэтыя абразьлівыя абсурды. Аднак, хоць ангельскае грамадзтва слушна абурылася й дамагалася адкліканьня візыты гэтых двух крамлёўскіх комівояжэраў у Ангельшчыне, ангельскі ўрад не здабыўся на гэты крок у вабароне свае годнасьці. І, праўдападобна, Хрушчоў у красавіку будзе прамаўляць у Лёндане, Манчэстары, Шэфільдзе і іншых местах Ангельшчыны. Пэўна-ж, будзе прамаўляць у стылі й на ўзроўні раённага агітатара-дэмагога, бо інакш недавучаны Мікіта ня ўмее. Але ён будзе прамаўляць не да Ідэна, Гэйтскела ці іншых лёрдаў — ён будзе агітаваць масы. Можна думаць, што Хрушчоў для зьмены дэкарацыі у Ангельшчыне будзе вярнуць горы на амэрыканскі каляніялізм, на амэрыканскія базы, якія быццам-бы пагражаюць міру, на тое, што Амэрыканцы забіраюць Ангельцам заморскія рынкі і т. п. Можна толькі думаць, што хрушчоўская балбатня ня будзе рабіць сярод ангельскіх масаў такога эфэкту, які рабіла сярод індускіх. Але...

Трыумфальнае падарожжа двух крывавых крамлёўскіх блазнаў, разрэклямаванае барабаншчынай камуністычнае прапаганды, між іншага, шмат падмацавала іхны прэстыж у Савецкім Саюзе. Візыта ў Ангельшчыне можа падмацаваць яшчэ больш. Паўстае тады пытаньне: па што крамлёўскім майстром мокрай работы рабіць гэтую прыемнасьць, калі найбольшай іхнай прыемнасьцяй, іхным лятуценьнем ёсьць усадзіць нож у жывот заходняй дэмакратыі?...

Думаем, што чытач мае права запытацца: дык дзе-ж канец гэтай макабрычнай бурлескі, гэтай ночы Вальпургі й танцу ведзьмакоў?

Тут мы мусім вярнуцца да вельмі-ж зашмальцаваных, шмат разоў паўтараных, аднак усьцяж актуальных тэорыяў. Канец можа быць толькі тады, калі Захад усьведаміць усю сьмяротную небясьпеку камуністычнай пошасьці, а ўсьведаміўшы, пастановіць змагацца на сьмерць і жыцьцё (бо іншага змаганьня быць ня можа) з гэтай небясьпекай. Захад мусіць зразумець, што ў гэтым змаганьні ён мусіць вырваць ініцыятыву з рук крамлёўскіх падпальшчыкаў сьвету. Ну, і, рэч зразумелая, Захад мусіць пазнаць слабыя месцы камуністычнай імпэрыі, гэтага канглямэрату, сшытага, як цыганская коўдра, з розных недапасаваных ні колерам, ні матар'ялам кускоў. А пазнаць ня цяжка. Хапіла толькі каляднага й навагодняга зваротаў Айзэнгаўэра, Далеса да падбітых народаў, каб крамлёўская зграя завыла дзікімі галасамі. Вось тут ім і баліць...

Вышэй мы сказалі, што аўтакратычнасьць камуністычных сатрапаў — іхная моц, а дэмакратычнасьць заходніх уладаў — іхная слабасьць. Так доўга гэтак будзе, пакуль ініцыятыва будзе ў руках Крэмля, пакуль кучка сатрапаў, тэрарызуючы мільёны падбітых людзей, будзе бяскарна тэрарызаваць дэмакратычны сьвет. З хвілінай, калі Захад здабудзецца на ініцыятыву й наважанае дзеяньне ў сьвятое імя свабоды, адносіны сілаў мусяць зьмяніцца. Тое, што да гэтага часу было слабасьцяй, — станецца сілай, і наадварот.

Апартуністычна заігрываючы з тыраніяй, вольны сьвет страціў шмат сымпатыяў падбітых Расеяй народаў. Але гэта ўсё далося-б адрабіць. Толькі трэба ўсе «духі» Ялтаў, Потсдамаў і Жэнэваў ды ўсіх маладушных апартунізмаў зьнішчыць, вывэнтыляваць, каб ні духу пасьля іх не засталося. Але для гэтага замала калядных і навагодніх пасланьняў ды перадвыбарных прапагандовых зваротаў.

Можна спадзявацца, што Захад, у імя свайго дабра, здабудзецца на неабходны высілак змаганьня. Навет найбольшы пэсымісты не адважыцца падумаць, што вольны сьвет, які стварыў бясцэнныя людзкія вартасьці, сьвет веры, культуры, прагрэсу й гуманізму — стане на калені перад дзікім ханам хамства й нявольніцтва. Тым больш, што навет на каленях ня можа спадзявацца паміlаваньня.

Камуністычны сатрап прызнае адно права: vae victis!...

пс

# Нельга стаяць на супрацьлеглых пазыцыях

На іншым месцы гэтага нумару газэты мы зьмяшчаем Рэзалюцыю Згуртаваньня Беларусаў Аргентыны, у якой гаворыцца аб дасягненьні згоды й кансалідацыі паміж усімі беларускімі ўгрупаваньнямі ў Аргентыне, як тымі, што групуюцца вакол ЗБА, гэтак і тымі, што стаяць вонках гэтае арганізацыі, а навет займалі да яе нядаўна варожае становішча.

Гэтае пагадненьне нашых аргентынскіх суродзічаў астаецца толькі шчыра й горача прывітаць, як не малое дасягненьне ў нутраным жыцьці нашае эміграцыі гэтае краіны. Ня менш прыемнай зьяўляецца й заява ў Рэзалюцыі, што ўсе беларускія ўгрупаваньні ў Аргентыне пастанавілі згодна між сабой супрацоўнічаць на ніве грамадзка-культурна-асьветнай працы й супольна каардынаваць усякую сваю дзейнасьць.

Вітаючы гэтае здаровае пачынаньне аргентынскіх Беларусаў, мы ня можам ня выказаць і некаторага нашага зьдзіўленьня што да ідэялягічнай і палітычнай плятформы, якая падаецца ў Рэзалюцыі, як база дасягнутага паразуменьня. Ня дзеля таго, каб пашкодзіць, але каб дапамагчы нашым суродзічам у Аргентыне, мы й наважылі спыніцца тут шырэй над гэтай плятформай ды аб'ектыўна й канкрэтна паказаць ейную памылковасьць.

У Рэзалюцыі гаворыцца: **«Ідэйным кірункам арганізацыі застаюцца запаветы 1-га й 2-га Беларускіх кангрэсаў» (§ 1); «рэпрэзэнтаваць арганізацыю навонкі на незалежніцкай плятформе Беларускага Нацыянальнага Руху вызначаным шляхам 1-ым і 2-ім Беларускімі Кангрэсамі» (§ 4).**

Астаецца адказаць на пытаньне, ці наагул магчыма стаяць адначасна на плятформе, вызначанай першым і г. зв. другім беларускімі кангрэсамі. Каб гэты адказ быў для кажнага ясным і пераконваючым, мы й прыпомнім асноўныя пастановы абодвых кангрэсаў, прыводзячы адну й другую поўнасьцю.

Як ведама, асноўная пастанова Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году была вынесена ягоным законным выканальным ворганам — Радай Беларускай Народнай Рэспублікі ў форме Акту 25 сакавіка 1918 году. Вось даслоўны й поўны тэкст гэтага Акту:

«Год таму назад народы Беларусі, разам з народамі Расеі, ськінулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь; ня пытаючыся народаў, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады і вёскі беларускія. **Цяпер мы, Рада БНР, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.**

**Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго ўстаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі.**

На падставе гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя сувязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь Трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На падставе гэтага Ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старонамі, запрапанаваўшы ім перагледзець тую частку Берасьцейскага трактату, якая датычыць да Беларусі і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

**БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ,** а ўласьне: Магілеўшчыну, Меншчыну, Віленшчыну, Горадзеншчыну, Віцебшчыну, Смаленшчыну, Чарнігаўшчыну й сумежныя часткі суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.

БНР пацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Ўстаўной Граматай ад 9-га сакавіка 1918 г.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці БНР, Рада яе ўскладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы памогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэялы.

**25 сакавіка 1918 г. Менск. Рада БНР».**

А вось даслоўны й поўны тэкст Рэзалюцыі г. зв. Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, скліканага ў 1944 г. у Менску:

«Другі Ўсебеларускі Кангрэс, сабраўшыся ў Менску, праз чверць стагодзьдзя пасьля Першага Ўсебеларускага Кангрэсу і выслухаўшы даклады аб падзеях на Беларусі ў часе паміж абодвума кангрэсамі, аднагалосна пастанавіў:

**1. Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая, маючы паўнамоцтвы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 г., на сваім сходзе 25 сакавіка 1918 г. урачыстай 3-яй Устаўной Граматай вырашыла аб канчальным разрыве Беларусі з бальшавіцкаю Масквою і расейскай дзяржавай у ўсіх яе формах.**

2. Пацьвердзіць, што Беларускі Народ ніколі ня прызнаваў, ня прызнае цяпер і ніколі ня прызнае ў будучыні за форму сваей беларускай дзяржаўнасьці, накіненыя яму маскоўскімі захопнікамі формы БССР.

3. Паведаміць усе ўрады й народы сьвету, што голас Масквы і СССР у беларускіх справах ня мае ніякай праўнай сілы, а ўсе, твораныя Масквою нібыта беларускія ўрады — ня маюць ніякіх праўных кампэтэнцыяў, бо ня вызнаюцца Беларускім Народам.

Таму ўсе ўмовы, ці аднабаковыя пастановы ўрадаў: СССР, былой Польшчы і сучаснага гэтак званага эміграцыйнага ўраду Польшчы, якія датычаць тэрыторыі Беларусі і Беларускага Народу і якія былі зробленыя раней, або будуць зробленыя ў будучыні, — Другі Ўсебеларускі Кангрэс абвяшчае ня маючымі ніякай праўнай сілы; як ня будуць мець сілы і ўсялякія іншыя магчымыя спробы падзелу Беларусі з боку іншых дзяржаваў і народаў.

4. Адзіным праўным прадстаўніком Беларускага Народу і ягонага краю зьяўляецца сяньня Беларуская Цэнтральная Рада з Прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім на чале».

Просім тады параўняць абодвы гэтыя дакумэнты і знайсьці ў вадным і другім найбольш істотнае, што магло-б служыць юрыдычнай асновай нашае дзяржаўнасьці. Такія месцы мы ў вабодвых дакумэнтах спэцыяльна падчыркнулі. Але дзеля найбольш правільнага ходу думкі мы тут іх яшчэ раз паўторым асобна. І так у Акце 25 сакавіка 1918 г. найважнейшай і найбольш вызначальнай ёсьць ясна сфармуляваная пастанова, што **«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай».** Іншай важнай, але толькі з вышэйшай лёгічна выплываючай, пастановай ёсьць наступная: **«Цяпер мы, Рада БНР, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны й незалежны край».** І напасьледак, трэйці пункт Акту 25 Сакавіка, які таксама вызначае Беларусь, як сувэрэнную дзяржаву, гаворыць аб наступным: **«БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ».**

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

**ЯКУБ КОЛАС** 7)

# У палескай глушы

Праз колькі хвілін Бабініч і яго жонка-кадушка запрасілі гасьцей за стол. На стале было многа закускі, а яшчэ больш гарэлкі. Гаспадыня прасіла гасьцей вельмі далікатна, а гаспадар проста пхаў іх з пагрозамі даць каленам, калі хто ня надта шпарка займаў за сталом месца.

— А ты чаго стаіш і топчашся, як таўкач той у ступе? — накінуўся ён на будачніка Лобука.

— Садзіся, Лобук, садзіся! — сьмяяўся высокі, відны сабою, шырокаплечы Курульчук, швагра панны Марыны.

Госьці жыва паселі за стол.

Акінуўшы вокам кампанію і тую гарэлку, якая стаяла на стале, Лабановіч цьвёрда пастанавіў ня піць, бо нейкае пачуваньне засьцярогі падказвала яму ўстрымацца. І вось, калі першая чарка дайшла да яго, ён падзякаваў гаспадару і перадаў чарку суседцы, жонцы вакзальнага жандара.

На твары Бабініча намалявалася нязвычайнае зьдзіўленьне.

— Хіба-ж вы ня п'еце? — панізіўшы чуць не да шэпту голас, прамовіў стараста.

— Ня п'ю, — салгаў настаўнік.

— Ні аднюсенькае чарачкі?

— Ніяк ня п'ю.

— Госпадзі Божа, Твая воля! Як-жа гэта можа быць, каб чалавек ня піў? Ну, што-ж мне з вамі рабіць?

— Ой, пане настаўніку, у нас няможна, каб гарэлкі ня піць, — засмуцілася і гаспадыня. Вы хоць трошачкі, а выпіце.

— Не, не! — загулі і кабеты: — Як-та ня выпіць?

Настаўнік стаяў на сваім і не паддаваўся ні на якія ўгаворы.

— Панна Марына! Папрасіце вы. Можа, на вашу просьбу госьць зьверне ўвагу, — зьвярнулася да дзяўчыны жандарыха, чырвонашчокая, добрадушная жанчына.

Панна Марына ўсьміхнулася і паказала свае белыя, як калядны сьнег, зубы.

— А нашто-ж прынявольваць чалавека? — сказала яна і зірнула на настаўніка.

— Вялікі вам дзякуй! — пакланіўся ёй Лабановіч.

— Эх, панна Марына, панна Марына! — з дакорам паківала галавою жандарыха і выпіла чарку гарэлкі.

Пасьля гэтай замешкі чарка ўжо ня ведала спакою. Курульчук праз поўгадзіны зачаў сваю песьню, адну з тых, якія ён ведаў і сьпяваў, дайшоўшы да пэўнага стопню:

Быў сабе з тапорыкам пан Ян.

Кабеты таксама разрумяніліся, як тыя пірагі пад Вялікдзень у добрае гаспадыні. Бабініч зусім асалавеў, вочы яго пажаўцелі і варочаліся, як тачыла ў руках няздольнага каваля. Яго плявузгота ўжо не рабіла вялікага ўражаньня: да яе прыслухаліся і прыцярпеліся, і яна як-бы атрымала тут правы грамадзянскія. На гэта, відаць, зьвярнуў увагу і сам Бабініч, бо ў яго плявузгоце пачаўся пералом: з кажным разам забіраўся ён усё далей і далей Ужо колькі разоў закрывала яму рот жонка і сама рагатала. Падгуляўшыя кабеты засьпявалі якуюсь песьню, а Бабініч закрычаў на ўвесь пакоік, вымагаючы ўвагі. Кабеты змоўклі, слухаючы, што скажа ён. Бабініч адпусьціў такія словы аб іх сьпяваньні, што і прывычныя жанкі паўскакалі зь месца.

Панна Марына кудысь схавалася, а сястра яе, жонка Курульчука, угневалася і сказала:

— Не, кумок: не пайду я больш да вас.

— Ну, ня буду, ня буду, — давячыся дымам махоркі, сьмехам і кашлям, прамовіў Бабініч: — Ня буду, няхай вас халера падушыць!

Лабановічу ўрэшце абрыдла гэта п'яная гульня і гэта гразь распушчанага языка, Яго толькі вельмі дзівіла, як магла быць у такой кампаніі панна Марына. Яму было брыдка і за сябе, і за яе. Устаць і пайсьці, што ён ужо колькі разоў памыкаўся зрабіць, Лабановіч не рашыўся, ня хочучы пакрыўдзіць гаспадара і гасьцей. Ён мусіў дасядзець да вечара, пакуль Бабініч ня ўстаў, хістаючыся, і ня зьнік за дзьвярамі надоўга.

Разам з Курульчукамі і паннай Марынай вышаў настаўнік ад Бабініча. Курульчукі і панна Марына прасілі яго быць зь імі знаёмымі і заходзіць да іх.

## XIII

— А вас, панічыку, пыталася паненка, — далажыла бабка настаўніку, як толькі ён вярнуўся з гасьцей: — Дзе-ж, кажа, бабка, твой паніч? — Пайшоў, кажу, паненачка, кудысь на чыгунку. — А я, кажа, хацела папрасіць кніг у паніча.

— Добра, бабка, кніг я выберу.

Лабановіч пакапаўся ў сваіх кнігах і адабраў дзьве: томік дробных апавяданьняў Караленкі і невялічкае апавяданьне Сельмы Лагерлёф «Легенда аднаго дому».

Лабановічу хацелася перадаць кнігу самому, і панна Ядвіся, як дагадваўся настаўнік, напэўна хацела, каб ён сам прынёс іх. Кнігі тут былі толькі, як зачэпка. Лабановіч крыху зафанабэрыўся. «Не, не пайду!» — сказаў ён сам сабе.

— Вось, бабка ,кнігі, занясі іх, калі ласка, паненцы.

— Добра, панічок.

Бабка крыху пастаяла, як-бы разважаючы, але нічога не сказала і вышла.

Лабановіч, сказаць праўду, гневаўся на панну Ядвісю — пасьля таго вечара, калі быў у пана падлоўчага Сухавараў, — і рашыў не паказвацца там. Апрача таго, вобраз другой дзяўчыны яго моцна зацікавіў і таксама крыху засланяў сабою Ядвісю.

І само сабою напрашалася параўнаньне гэтых дзяўчат. Панна Марына, бяз спрэчкі, мела перавагу над Ядвісяю ў харастве, але разам з гэтым уступала Ядвісі ў разнастайнасьці праяўленьняў жыцьця. Марына была ціхая, сталая і напэўна добрая душа, але гэта была простая дзяўчына. Адлучыўшы ад Марыны хараство, гэту дзявочую шыльду, ад яе засталося-б мала, тады як Ядвіся была натура больш многалучная, больш жывая, якая яшчэ ня выявілася і не сфармавалася ў пэўны характар.

Лабановіч усьміхнуўся сам сабе: яму прыпомнілася казка пра асла. Галодны асёл папаў між двух стагоў. Ён спыніўся і пачаў разважаць, да якога яму накіравацца. Разважаў да таго часу, пакуль ня выпрстаў ногі.

У канцы Лабановіч вывеў такое заключэньне, што гэтыя дзьве дзяўчыны ахаваюць яго ад таго, каб закахацца ў вадну зь іх, і яму стала весела.

— Занесла, панічыку, вашы кнігі. Паненка дзякавала вам. А чаму, кажа, паніч ня прышоў? — сказала, вярнуўшыся, бабка.

Па праўдзе сказаць, настаўніку хацелася пабачыць Ядвісю, тым болей, што пасьля таго, як быў там Сухавараў, яны ня сустракаліся. І як ні хітрыў ён сам сабою, як ні тлумачыў гэты факт, але аднаго ня мог пабароць у сабе — ня думаць аб панне Ядвісі. І што-б ён ні рабіў, аб чым-бы ён ні думаў, не-не дый устане перад ім Ядвіся. І чым бліжэй быў ён да яе, тым больш адчувалася ўлада гэтай дзяўчыны над ім. Калі ён быў у гасьцях і бачыў перад сабою другую дзяўчыну, ён ні разу ня ўспомніў аб сваёй суседцы. А цяпер, як-бы ў помсту

# Злачынства ў даліне ракі Дравы

(Працяг з папярэдняга нумару)

## «КАНФЭРЭНЦЫЯ»

Перад тым, як перайду да апісаньня яе прабегу, хацеў-бы на хвіліну затрымацца над бяссумлеўна цікавым пытаньнем: якім чынам тысячы ахвіцэраў на чале із старымі генэраламі маглі да такой ступені наіўна дацца загнаць сябе ў пастку? Бо-ж здарыўся выпадак, які мусіў-бы выклікаць неспакой. 27 траўня прыбыў у Ліенц ген. Шкура, стары эмігрант, які ніколі грамадзянінам савецкім ня быў. Адзін з выдатнейшых генералаў дамашняй вайны, пры тым, у пэрыяд памаганьня «белым» Вялікабрытаніяй, адзначаны высокім брытанскім ордэнам. Прыгатавалі яму энтузіястычнае прыняцьце.

Назаўтрае... ці якраз гэнага 28 траўня, да гасподы ген. Шкуры прыбыло двух брытанскіх ахвіцэраў, арыштавалі яго й вывезьлі ў няведамым кірунку.

Выпадак гэты, які сам сабой мог выклікаць паважнейшыя рэфлексіі, утануў аднак у суматосе й камэнтарах на тэму канфэрэнцыі. Скліканьне яе ня было ў супярэчнасьці, а скарэй за ўсё выдавалася бальшыні лягічным вынікам аптымістычных спадзяваньняў. Кажны хацеў быць хутчэй прысутным, чымся адсутным. У няўхільны канфлікт з Саветамі верыла 90%, як верыла 90% польскага 2-га корпусу ў Італіі, як верыла палавіна Эўропы. Паза гэтым Казакі былі сьхільныя ўсе задаткі пад сонцам прыпісаць Брытанцам. Ніколі яшчэ слова «джэнтэльмэн» ня было ў так кароткім часе гэтулькі выказванае й камэнтаванае. Калі-ж з вуснаў гэных «джэнтэльмэнаў» выходзілі запэўніваньні, падмацаваныя ахвіцэрскім гонарам, разьвеіліся апошнія сумляваньні нямногіх сцэптыкаў.

Трохі адменным было захоўваньне самога атамана Даманава (павешанага пазьней у Маскве). Склікаўшы на брытанскі загад усіх ахвіцэраў, на пытаньне, заданае адным з камандуючых палка: «Што нас чакае?», адказаў:

— Хіба нічога добрага. Скарэй за ўсё драты.

— Што рабіць з ахвіцэрамі, якія пачнуць уцякаць у горы?

— Вы зьяўляецеся камандуючым палка. Вы мяне зразумелі.

У запраўднасьці аднак: не зразумеў. Тымбольш што сам Даманаў ехаў, а выказваньне ягонае сьветчыць можа, што й ягоныя прадбачаньні не пасунуліся ў пэсымізме далей за брытанскі лягер ваеннапалонных.

А 1-ай гадз. папаўдні прыехалі грузавікі. Паводля правізарычных аблічэньняў паехала: генэралаў 35, палкоўнікаў 167, падпалкоўнікаў 283, эсаулаў 375, падэсаулаў 460, сотнікаў 526, харунжых 756, вайсковыхураднікаў 124, лекарскага пэрсаналу 15, хватаграфаў 2, зьвязных ахвіцэраў 5 і 2 сьвятароў.

Толькі ў грузавікох штосьці іх занепакоіла. Былі зацягнутыя брызенты. Каля шофэраў селі жаўнеры, узброеныя аўтаматычнымі пісталетамі. Хтосьці прабаваў запяяць, але абарваў. Пасьля пераезду 12 км калёна затрымалася. Пад'ехалі лёгкія танкі. Дарога йшла ўздоўж Дравы цераз Грайфэнбург—Штайнфэльд—Захсэнбург—Мэльбрыкэ да... Перакінуцца псыхічна з аднэй скрайнасьці ў другую ня ёсьць лёгка: з пачуцьця бясьпечнасьці ў спалох, з даверу ў роспач. Колькі патрапілі гэта зрабіць, ня ёсьць дакладне ведамым. Ёсьць браны гіпатэтычны лік 5 ахвіцэраў, якія саскочылі ў бегу і ўцяклі ў лясы.

Ад Мэльбрыкэ, усьцяж карытам Дравы, дарога заварачвае раптоўна на паўдзённы-ўсход, і 13 км далей ляжыць места Шпітталь. Самаходы заехалі ў браму лягеру, акружаную патройным радам калючага дроту. Густа былі расстаўленыя пасты. Пачалося выладоўваньне.

Ахвіцэры адразу былі падзеленыя паводля чыноў, прыдзяляючы кажнай групе асобны барак. Унутры панаваў бруд і беспарадак, на падлозе ляжала старая салома. За гадзіну ангельскі камандуючы выклікаў трох казацкіх генэралаў, у тым ліку Даманава й Ціхоцкага, і асьветчыў ім холадна:

— Паведаміце ўсіх ахвіцэраў, што згодна з умовай, заключанай між урадам Яго Каралеўскай Вялікасьці і Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, яны будуць перададзеныя ў распараджэньне савецкіх вайсковых уладаў. Ад'езд із Шпітталь адбудзецца заўтра а 4-ай раніцай.

Ціхоцкаму зрабілася слаба і ён упаў.

## ПАРАЛІЖУЮЧАЯ РОСПАЧ

Калі-б мы ня ведаю як хацелі адарвацца ад г. зв. «усходняй псыхікі», зразумеем аднак, што тое, што найбольш мусіла заскочыць звыш дзьве тысячы ахвіцэраў донскіх, кубанскіх, тэрскіх... Грузінаў, Асецінаў, Карачаяў, Інгушаў і г. д., дык гэта быў бяссумлеўна «стыль» палагоджаньня цэлай справы. Стыль напасьледак адменны так-жа ад працэдуры, якая была-б ужытая ў падобных выпадках на цэлым эўрапэйскім кантынэнце. Дзесьці інакш магло быць яшчэ горай, але — «ня гэтак»... І якраз гэта ашаламліваючае, тое, «што ня месьціцца ў галаве», павялічыла яшчэ больш псыхічны параліж, які звычайна апаноўвае асуджаных на сьмерць перад выкананьнем прысуду.

Найбольш нязвычайнай праявай гэройства мінулай вайны было бяссумлеўна паўстаньне варшаўскага гэтта. Тыя, што паціскаюць плячыма, цьвердзячы, што Жыды «ня мелі ані іншага выхаду, ані ніякай надзеі», выказваюць глыбокае няведаньне людзкой псыхікі. Уза-

(Працяг на 4-ай бачыне)



Замак кн. Паськевіча ў Гомелі

# Навуковая праца й псэўдонімы

(З нагоды выхаду ў сьвет аднае кніжкі)

Да псэўдонімаў у нас адчуваецца нейкая асаблівая цяга. Зьявішча гэтае, як такое, мае ўжо сваё апраўданьне — чалавек, стварыўшы штосьці, хоча адарваць гэта ад свае будзённае асобы ды аддаць, ім-жа створанай, новай асобе (захоўваючы такім чынам поўнае права над вынікам свайго высілку), — стварэньню больш ідэальнаму, бяз штодзённых недахопаў, бяз слабасьцяў (прынамся мы так сабе ўяўляем). У нас, Беларусаў, псэўданімаваньне свае духовае прадукцыі — асабліва глыбока традыцыйнае, і, памінаючы прычыны агульналюдзкія, псыхалягічнага парадку, яно мае таксама прычыны нацыянальныя, парадку палітычнага. І вось звычай прыкрывацца псэўданімамі распаўсюдзіўся ў нас так шырока, што ён пачынае заглушаць калівы здаровага глузду ня толькі на прызначанай яму дзялянцы, але й перарастаць на суседнія загоны. Коратка кажучы, — у дзялянцы навуковае працы, на нашую думку, завялося зашмат псэўдонімаў, і гэтая псэўданімаманія, уважаем, адбіваецца адмоўна на аўтарытэтнасьці навуковых прац, што мы й папрабуем ніжэй абгрунтаваць.

Тонка падхопліваючы псыхалягічны мамэнт, адна народная прыказка (хай сабе мо й не беларускага паходжаньня) кажа: «Па адзежцы сустракаюць — па розуме праводзяць». Праўда гэта адносіцца ня толькі да «шэрага» чалавека. Папершае, што «шэрасьць» — надта-ж адносная рэч; а падругое, кажны з нас у жыцьці мае дачыненьні зь людзьмі й рэчамі, што абавязкова складаюцца з вонкавае адзежкі-формы ды нутранога розуму-зьместу. І не заўсёды — пры-

Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Нельга стаяць на супрацьлеглых пазыцыях

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

Вышэй прыведзеныя тры аснаўныя пункты Акту 25 Сакавіка 1918 г. юрыдычна вызначаюць Беларусь, як поўнасьцю сувэрэнную незалежную дзяржаву, якая павінна абняць усе беларускія этнаграфічныя землі. Дык калі ходзіць пра незалежніцкі дзяржаўніцкі зьмест Акту 25 Сакавіка і яго юрыдычнае сфармуляваньне, дык нічога да яго дадаць ані адняць абсалютна нельга.

А як-жа прадстаўляецца справа з Рэзалюцыяй г. зв. Другога Ўсебеларускага Кангрэсу?

Калі-б прыкладам гэты Другі Кангрэс толькі паўтарыў усё тое, што чэцьверць стагодзьдзя таму назад сказаў Першы Ўсебеларускі Кангрэс, не дабавіўшы нічога новага, дык ужо і ў такім выпадку ня было-б патрэбы заяўляць, што тая ці іншая арганізацыя стаіць на пазыцыях 1-га й 2-га Беларускіх кангрэсаў, бо тут ніякай сваей собскай пазыцыі 2-га Кангрэсу ня было-б. Але справа ўся ў тым, што гэты 2-гі Кангрэс навет зусім ня паўтарыў таго, што сказаў раней 1-шы Кангрэс, значыцца ў параўнаньні зь 1-ым Кангрэсам, ён пайшоў не наперад і не затрымаўся навет на аднолькавай зь ім пазыцыі, але пайшоў далёка назад. Другі Беларускі кангрэс ані словам не заікнуўся аб найважнейшай пастанове Першага Ўсебеларускага Кангрэсу — **аб абвешчаньні дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, ані аб пацьверджаньні абвешчаньня гэтае незалежнасьці 1-ым Кангрэсам.** Не сказаўшы аб гэтым ані слова, 2-гі Кангрэс, зразумела, ня мог нічога сказаць і аб тэрыторых, якія мусілі-б увайсьці ў склад беларускае незалежнае дзяржавы.

Адзінай, але, як вышэй зазначана, не найважнейшай пастановай Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, якую «вызнаў правільнай» і «пацьвердзіў» 2-гі Кангрэс, гэта пастанова аб **«канчальным разрыве Беларусі з бальшавіцкаю Масквою і расейскай дзяржавай у ўсіх яе формах».** І ўсё!

Але гэтага зусім яшчэ мала. Канчальны разрыў Беларусі з Расеяй, ці, як гаворыцца ў Рэзалюцыі 2-га кангрэсу, адмаўленьне права польскім урадам выступаць ад імені Беларусі, яшчэ не абазначае дзяржаўнай незалежнасьці нашага краю. Дык палітычны сэнс г. зв. 2-га Беларускага кангрэсу, як і ягоная юрыдычная сіла, як зараз пабачым, зводзіцца к нулю.

Пасьля гэтага параўнаньня пастановаў абодвых кангрэсаў ясна відаць, што пастанова 2-га Кангрэсу **запярэчвала** пастанову 1-га Кангрэсу, **зводзіла яе на нішто, анулёўвала права беларускага народу на ягоную дзяржаўную незалежнасьць.**

З гэтага зусім нельга дзівіцца, як і ня можна ў ніякім выпадку абвінавачваць 2-га Кангрэсу ці ягоных удзельнікаў, якія, будучы добрымі патрыётамі, а многія зь іх заслужанымі беларускімі дзеячамі, не маглі правесьці такіх самых пастановаў, што 1-шы Ўсебеларускі Кангрэс. Справа ў тым, што 2-гі Кангрэс адбыўся ў умовах жорсткай акупацыі Беларусі гітлераўскай Нямеччынай, якая разглядала Беларусь, як будучую бяспраўную нямецкую калёнію і аб ніякай незалежнасьці нашага краю й слухаць не хацела. У гэтым і заключаецца мізэрнае палітычнае значэньне 2-га Кангрэсу. Калі-ж узяць на ўвагу факт, што з тых-жа самых прычынаў дэлегаты 2-га Кангрэсу ня былі выбраныя народам, а проста назначаныя, нярэдка нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, дык і праўнае значэньне 2-га Кангрэсу аніякае, бо ня мог ён выражаць волі беларускага народу. Затое 1-шы Усебеларускі Кангрэс, будучы пакліканы самым народам шляхам дэмакратычных выбараў, меў бясспрэчную сілу і выражаў волю беларускага народу.

Калі-ж сяньня заяўляць, што мы стаім на пазыцыях абодвых кангрэсаў, дык гэтым самым мы дыскрэдытуем значэньне 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу ды кампрамітуем сябе ў вачох чужынцаў. Вось у чым заключаецца шкоднасьць такога фармуляваньня нашых ідэялягічных і палітычных пазыцыяў, як гэта бачым у Рэзалюцыі ЗБА.

за гэта, вобраз панны Ядвісі стаяў неадступна ў вачах, дражніў яго, кудысь зваў і сьмяяўся. А вокны ў пакоі пана падлоўчага сьвятлелі прынадным бляскам. Цяпер там, напэўна, адна панна Ядвіся зь сястрою, бо пан подлоўчы цэлымі днямі езьдзіў прымаць сена ад паляшукоў для графа Патоцкага; паненкі, напэўна разглядалі, а можа, чыталі яго кнігі. Хата пана падлоўчага выглядала так, як-бы хацела сказаць настаўніку: «Хлусіш! Ты ўсё-ж-такі да мяне прыйдзеш».

— Што за насланьне! — прамовіў сам сабе Лабановіч: — Або ў мяне няма сілы ўзяць сябе на павадок?.. Яловыя шышкі! Сказаў сяньня: гарэлкі піць ня буду, і ня піў. А сказаў не пайду да Ядвісі, значыцца і быць так!

Настаўнік зьняў із сьцяны скрыпку, настроіў сяк-так струны і пачаў вадзіць па іх смыком. Іграў ён зусім слаба, але ўзяўся за скрыпку, каб разагнаць думкі. Ён навет імкнуўся выявіць ігрою свой настрой, але з гэтага нічога ня вышла. Скрыпка, як зазначыў сабе сам музыка, раўла, нібы галодная жывёліна, загледзеўшы свайго гаспадара. Ён кінуў скрыпку на стол, зьвярнуў папяросу і, момант падумаўшы, адзеўся, узяў палку і пайшоў.

У кухні каля грубкі стаяла бабка, а на зэдліку пры стале сядзела яе прыяцелька Наста.

— А куды-ж гэта вы, панічок? — запыталася бабка.

— Пайду, бабка, лавіць таго чорта, што твайго Міхалку напалохаў, — сур'ёзна адказаў Лабановіч і вышаў на двор.

Ужо даўно зьвечарэла, і ў хатах усюды сьвяціліся агні.

У вадным канцы сяла, ад пераезду, сьпявалі вясковыя дзяўчаты, і водгульле іх аднатоннай песьні, адбіваючыся дзесь каля чыгункі, даносілася сюды цэлымі хвалямі мяккіх жалобных гукаў. Простыя матывы, крыху зьмякчаныя адлегласьцю, хвалявалі маладога настаўніка, як нейкі няясны прываб, і разам з гэтым паглыблялі яго смутны настрой. Цёмны лес, што стаяў недалёка за вёскай і глядзеў хмурна, як-бы казаў: «Ня слухай ты гэтых песень: у іх твая атрута. Уцякай ты адгэтуль — тут усё пранята атрутаю сэрца». Але настаўнік стаяў і слухаў дзявочыя песьні.

«Чаму яны такія жаласныя? Чаму мала разнастайнасьці ў іх матывах, так мала, што трудна сказаць, аб чым сьпяваюць дзяўчаты: аб смутку ці радасьці, бо калі толькі не пачуеш іх сьпевы, яны заўсёды невясёлыя? Ці не аднатоннасьць тутэйшага краявіду, гэтыя доўгія, бясконцыя дарогі між лясоў і балот адбіліся на іх?»

За колькі крокаў ад Лабановіча, вынырнуўшы зь цемнаты, бяз шуму, як цень, выступіла жаночая постаць. Параўняўшыся з агарожай школы, яна прытрымала крок, пайшла павальней, прыглядаючыя на вокны кватэры настаўніка. Вокны сьвяціліся: выходзячы, настаўнік забыўся патушыць лямпу.

Угледзеўшы настаўніка ці толькі дагадваючыся аб тым, што гэта ён, жанчына прыбавіла крок, ледзь падаючыся ў бок Лабановіча. Цёмная постаць, крыху адышоўшыся, павярнула назад і накіравалася да настаўніка.

— Вам, мусіць, нявесела аднаму? — спытала жанчына ціха глыбокім маладым голасам, у якім чуўся нейкі прывабны сьмех.

Лабановіч пачуў, што галава яго закружылася, як-бы ад хмелю, а ў крыві і па ўсім целе прабеглі іскры. Ён быў ужо крыху папярэджан і ведаў, што па глухіх вёсках Палесься, у зьвязку з так званаю «культураю», сустракаліся такія маладзіцы, якія набіваліся самі на кампанію. Цэлы віхор розных пачуваньняў пранёсься ў маладым хлопцу. Але ён перамог сябе і груба адказаў:

— Ці ня думаеш ты, што мне было-б весела з табою?

Маладзіца, відаць, не чакала такога адказу. Яе жаночае самалюбства было моцна абражана гэтым грубым адказам і балюча ўшчымлена. Але яна не паказала гэтага.

— Ха-ха-ха! — засьмяялася яна спакусным сьмехам: — Хіба-ж вы сьвяты або калека. І ўжо другім тонам, зь відавочнай зьнявагаю дадала: — Вы, можа, думаеце, што я ішла дзеля таго, каб вас разьвясельваць?

Лабановіч, раз стаўшы на пэўны грунт і пачуўшы сябе таксама ўколатым, ужо ня мог зьмяніць тону і лініі паводзін і ў нейкай злосьці, трасучыся, сказаў:

— Няма чаго тут табе паказваць зубы, бо я іх усё роўна ня бачу і бачыць не хачу.

Лабановіч чуў, што ён гатоў падскочыць да гэтай спакусьніцы, каб пагнаць яе ў шыю. Таксама ня ручаўся ён і за іншы вынік, і, каб быць далей ад спакусы і захаваць свае імя, як настаўніка, ён борздымі крокамі пайшоў праз вуліцу, накіроўваючыся ў той бок, дзе была старая карчма, якраз па дарозе ў Сяльцо.

Маладзіца хіхікнула ўсьлед, і да яго даляцелі словы.

— Гэта мужчына: ад бабы ўцёк... Неданосак! Стоптаны лапаць!

Настаўнік ішоў і трасься, як у хвэбры, бо ўся гэта праява яго дужа ўсвалявала. Як толькі ўлеглася абурэньне, ён пачынаў каяцца ў сваёй грубасьці з гэтай незнаёмай жанчынай. Хіба яна вінавата, што яе зрабілі такою розныя прахвосты, пацяробкі культуры? Хіба нельга было-б ухіліцца ад яе больш далікатным спосабам, растлумачыўшы ёй усю гразь і ўвесь бруд гэтага лёгкага заработку? Цяпер яна сьмяецца і ня сьціскаецца ў розных мянушках па яго адрасу. І мае права, бо гэта права дала яго грубасьць. Ну, што-ж? На другі раз трэба быць больш уважлівым да чалавка, хто-б ён ні быў.

Так разважаючы, дайшоў ён да карчмы, што была пабудавана яшчэ ў даўнейшыя часы, тады, калі аб манапольках нікому ня сьнілася. Цяпер гэта карчма дажывала разам із сваім гаспадаром, старым Абрамам, апошнія дні. Ня было патрэбы адбудоўваць карчму і ня было каму заступіць месца старога шынкара: сыноў Абрам ня меў, а дочкі павыходзілі замуж.

Лабановіч кажны раз, праходзячы тут, мімаволі зварачаў увагу на гэта месца і на гэту заняпалую карчму з пакрыўленымі сьценамі і пагнутым дахам. І тое, і другое, як нельга лепей, стасавалася адно з другім. Месца было глухое і пустое, і кажны раз выклікала ў настаўніка адно і тое пачуваньне і пакідала адно і тое ўражэньне. З чаго яно складалася, і якая была яго сутнасьць, выявіць і вызначыць было вельмі трудна, але вынікала гэтае ўражэньне, відаць, таму, што ў самой мясьціне было нешта варожае, няпрыветнае і смутнае па сваім характары. Цікава і тое, што ніхто зь сялян ня будаваўся тут, ня гледзячы на ўсе выгады гэтага месца. Старая карчма і яе гаспадар як-бы адной нагой ступалі ўжо на край магілы. А гэта, разам ўсё ўзятае, хіліла думку настаўніка да заключэньня, што на сьвеце ёсьць нейкія розныя пачаткі жыцьця. Адны з гэтых пачаткаў вызначаюцца ў бясконцых формах жывых арганізмаў, а другія — адбіліся ў так званай няжывой прыродзе. Але пакуль такія пачаткі не асочаны і не дасьледаваны як мае быць, яны і не паддаюцца нашаму разуменьню, яны жывуць у нашых пачуваньнях. Пачуваньне-ж ёсьць папярэднік розуму ў досьледах і вызначэньнях сутнасьці рэчаў.

Мінуўшы старую карчму, Лабановіч прыпомніў фразу якая зьляцела зь языка, калі ён выходзіў з кухні: «Іду, бабка, лавіць таго чорта, што твайго Міхалку напалохаў». Якраз гэта і было месца, дзе, па словах бабкі, Міхалку налучыла тое здарэньне, пасьля якога ён ледзь не памёр. Паставіўшы ўсё гэта ў зьвязок з тым фактам, што ён прышоў іменна сюды, ня маючы гэтага ў мысьлях, Лабановіч зьдзівіўся і зацікавіўся.

«Куды-ж я іду і чаго іду?» — спытаў ён сябе і спыніўся, азірнуўшыся вакол.

(Далей будзе)

